

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №10 (97)
ЛІПЕНЬ 2019 ГОДА**

ПРАВАПАРАДАК

## ЖЫХАРЫ ЗЬБІРАЮЦЦА ПАДАВАЦЬ У СУД

**Пляцоўка для выгулу сабак зьявілася ў двары дамоў № 7 (корп. 1 и 2) на вуліцы Чкалава ў верасьні 2014 году. Яе зрабілі бяз згоды з жыхарамі прылеглых да яе дамоў, і яна адразу прычынілася да канфлікту паміж жыхарамі і ўладальнікамі чатырохногіх гадаванцаў. Канфлікт не разьвязваецца ўжо цягам 5 гадоў.**

Як пераконваюць праціўнікі пляцоўкі, яна была пабудаваная з парушэньнем санітарных нормаў і правілаў горадабудаўніцтва. Штогод тут здараюцца выпадкі нападу сабакаў на людзей. Сёлета ў сакавіку ад сабакі без намордніку пацярпела жанчына. Зварот у міліцыю вынікаў не прынёс – гаспадыню сабакі шукаць ня сталі.

“Згодна зь дзейснымі нарматывамі, пляцоўка мусіць разьмяшчацца не бліжэй як за 40 мэтраў ад вокнаў жылых дамоў. Калі запрошаны намі адмыслоўца зрабіў геадэзічныя замеры, дык аказалася, што пляцоўка знаходзіцца за 13 мэтраў ад дому”, – сьцьвярджае жыхарка аднаго з дамоў Ірына Захарава.

Ад 2015 году актывісты ходзяць у пошуках праўды па чынавенскіх кабінэтах. Нічога звышмернага жыхары ня просяць – проста дамагаюцца, каб пляцоўку перанесьлі ў больш прыдатнае для выгулу сабак месца. Але ніякага плёну гэтыя хаджэньні пакуль не прынесьлі. Падобна на тое, што вырашаць праблему чыноўнікі і не зьбіраюцца.

“Увесь час атрымліваем адны і тыя ж адказы-адпіскі. Асабліва зьбянтэжыў адказ зь Віцебскага гарвыканкаму. Там было напісана, што гэтую пляцоўку могуць наведваць аж 400 сабак, бо іхнія гаспадары аплочваюць адпаведны падатак. А цяпер уявіце сабе на гэтай пляцоўцы, якая, можна сказаць, прымыкае да школы, столькі жывёлінаў!” – абураецца Ірына Захарава.

“Сёньня ў 5.40 мяне пабудзіў сабачы брэх з пляцоўкі. Мы зьвярталіся і ў аблвыканкам, і ў гарвыканкам. Нам адказваюць, што наш дом, маўляў, бяз вокнаў (дом разьмешчаны тарцом да пляцоўкі, але на ім – выхад на агульны балькон - ВВ), і мы не павінны чуць брэх. Аж нэрвы не вытрымліваюць! Мы ж ня супраць сабачак, але пляцоўка пабудаваная ня там, дзе яна мусіць быць”, – кажа яшчэ адна жыхарка суседняга дому Тацяна Гложык.

Людзі разгубіліся, яны ня ведаюць, што рабіць у такіх варунках.

Грамадзкая актывістка Тацяна Севярынец жыве далёка ад пляцоўкі для выгулу, але добра ведае праблему. Яна распавядае, што ў чэрвені актывісты зьбіраліся трапіць на прыём да старшыні аблвыканкаму Мікалая Шарстнёва. Але 16 чэрвеня атрымала пісьмовы адказ: у сустрэчы адмоўлена, з той прычыны, што актывісты ўжо зьвярталіся да намесьнікаў старшыні, і ім нібыта былі дадзены “абгрунтаваны адказ”.

“Застаецца толькі суд”, – упэўненая Тацяна Севярынец. У гэтым яна пераконвае і жыхароў, якія церпяць ад праблемнага суседзтва.

Праваабаронца Павал Левінаў кажа, што жыхары мусяць праявіць у гэтым выпадку крэатыў:

“Трэба правесьці крэатыўную акцыю на гэтай пляцоўцы, неяк абсьмяяць сытуацыю, калі ўлада ня можа разьвязаць яе законнымі прававымі мэтадамі. Трэба паказаць усю абсурднасьць гэтай сытуацыі. А з другога боку – зьвярнуцца ў суд і надаць праблеме больш галоснасьці і публічнасьці”, – раіць праваабаронца.

Нядаўна на агароджы пляцоўкі невядомыя павесілі тры плякаты з надпісамі ад імя “цуцыкаў” ды “сабакаў”. Цяжка сказаць, ці было гэта сьмешна і крэатыўна, але нейкая навізна, безумоўна, зьявілася.

Ці зьвернуцца жыхары ў суд, пакуль можна толькі здагадвацца. Зразумела, што такі шлях вырашэньня праблемы патрабуе большых высілкаў і ўзгодненай пазыцыі жыхароў абодвух дамоў.

**Якаў Дрозд**

БАЗА ВАКАНСІЙ

## ЦІ ГЭТА ТАК?..

**У афіцыйных сродках масавай інфармацыі часта паведамляюць пра рост заробкаў і зьніжэньне ўзроўню беспрацоўя. Але пры гэтым многія нашы суайчыньнікі зьяжджаюць працаваць за мяжу. Чаму ж так?**

Як паведамляе афіцыйны сайт Міністэрства працы Беларусі, “узровень зарэгістраванага беспрацоўя на 1 чэрвеня 2019 года склаў 0,3% да колькасьці працоўнай сілы”, ці “13,7 тыс. чалавек, што на 30,7% менш, чым на 1 чэрвеня 2018 году”.

Калі верыць дадзеным, дык за год колькасьць беспрацоўных у нашай краіне скарацілася на 30%, а заробак пастаянна расьце. Паводле дадзеных, якія прыводзіць Белстат, сярэдняя заработная плата ў Беларусі ў маі 2019 году склала 1071,6 рублёў. Але ці лёгка наогул знайсьці ў Віцебску працу, і тым больш – з такім “сярэднім” заробкам? Пашукалі адказ у цэнтры занятасьці.

У калідорах цэнтру людзей ня вельмі шмат. Сярод іх мужчына сярэдніх гадоў, які назваўся Сяргеем. Ён ужо каля году стаіць на біржы на ўліку і прыйшоў сюды атрымаць даведку. Зараз праходзіць перанавучаньне па спэцыяльнасьці “электраманцёр па рамонце і абслугоўваньні электраабсталяваньня”. Да гэтага паўгода стаяў на біржы ў якасьці беспрацоўнага. За гэты час яму некалькі разоў прапаноўвалі працу з заробкам крыху больш за 300 рублёў.

“Яны мне прапаноўвалі альбо грузчыкам, альбо дворнікам ісьці – за 300 рублёў, больш нічога не маглі прапанаваць”, – расказвае Сяргей.

Зразумела, што ісьці працаваць за такія грошы ён не захацеў і вырашыў атрымаць новую прафэсію. Але патрапіць на курсы аказалася ня так і проста. Трэба сабраць неабходны пакет дакумэнтаў, знайсьці патэнцыйнага працадаўцу і скласьці зь ім дамову, якая дасьць гарантыю, што пасьля праходжаньня навучаньня той возьме вас на працу.

“Наступны набор на электраманцёра будзе ня хутка. У нас усяго чатыры чалавекі ў групе. Дык нават гэтую групу паўгода зьбіралі. Прыйшлося чакаць, пакуль набяруць людзей”, – кажа Сяргей.

Ягоная стыпэндыя складае ўсяго 1,5 базавыя велічыні. Але ня гэта больш за ўсё абурае нашага суразмоўцу: “Трэба два месяцы хадзіць на вытворчую практыку. Працаваць цэлы дзень з 8.00 да 17.00 на вытворчасьці. І за гэта нам ня плацяць ані капейкі”.

Па словах спэцыялісты цэнтру занятасьці па перанавучаньні Ніны Русаковіч, абсалютна на ўсе напрамкі перанавучаньня неабходныя дамовы пацьверджаньня з працадаўцам.

“Але па некаторых прафэсіях мы можам прапанаваць арганізацыі, якія гатовыя забясьпечыць працаўладкаваньне”, – дзеліцца спэцыялістка. Гэтак, на групу “для рабочых па навучаньні бясьпечным мэтадам працы на газонакасілках і кустарэзах” такі дагавор можна атрымаць без праблем. Тэрмін навучаньня – 1 тыдзень. Пасьля курсаў ёсьць магчымасьць працаўладкавацца ў мясцовы ЖРЭТ альбо “Зелянгас”.

Але колькі ж будуць зарабляць “навасьпечаныя” газонакасільшчыкі,

*(працяг на стар. 2)*

«РУСКІ МІР»

## ЦІ ПІКЕТ ДАЗВОЛІЛІ?

**Напярэдадні афіцыйнага адкрыцьця «Славянскага базару ў Віцебску» прыхільнікі «русского мира» зладзілі ў самым цэнтры гораду пікет са зборам подпісаў пад зваротам да Уладзімера Пуціна з просьбай аднавіць Савецкі Саюз...**

Пікет праходзіў пад чатырма сьцягамі – Беларусі, Расеі, СССР і сьцягам з георгіеўскімі палосамі. Жанчына, якая збірала подпісы, назвалася грамадзянкай Расейскай



Фэдэрацыі. На яе вопратцы быў прышпілены значок руху “НОД” (“Национально-освободительное движение»).

“Мы, грамадзяне былых рэспублік СССР, выступаем з патрабаваньнем адмены незаконнага рашэньня аб ліквідацыі СССР. Неабходна паставіць пытаньне аб вяртаньні да межаў 1991 году, замацаваных міжнароднай супольнасьцю па выніках Другой сусьветнай вайны”, – гаворыцца ў звароце на імя прэзыдэнта РФ Уладзімера Пуціна

Пікет праходзіў пад чатырма сьцягамі – Беларусі, Расеі, СССР і сьцягам з георгіеўскімі палосамі. Жанчына, якая збірала подпісы, назвалася грамадзянкай Расейскай Фэдэрацыі. На яе вопратцы быў прышпілены значок руху “НОД” (“Национально-освободительное движение»).

“Мы, грамадзяне былых рэспублік СССР, выступаем з патрабаваньнем адмены незаконнага рашэньня аб ліквідацыі СССР. Неабходна паставіць пытаньне аб вяртаньні да межаў 1991 году, замацаваных міжнароднай супольнасьцю па выніках Другой сусьветнай вайны”, – гаворыцца ў звароце на імя прэзыдэнта РФ Уладзімера Пуціна

На сайце выданьня ў загаловак вынесеная цытата Пуціна: “Расея ня можа існаваць, калі ня будзе сувэрэнная. Некаторыя краіны могуць, Расея – не”. Трэба разумець, Беларусь, на думку НОД, адносіцца якраз да “некаторых краін”…

Адзначым, што да пікетоўцаў падыходзіў намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкама Віктар Глушын. Ці папярэджваў ён іх аб незаконнасьці правядзеньня несанкцыянаванага масавага мерапрыемства ў цэнтры гораду – невядома, але міліцыя людзей са сьцягамі не затрымлівала.

**Уладзімер Бяляўскі
«Віцебская вясна»**

БАЗА ВАКАНСІЙ

*(пачатак на стар. 1)*

паведаміць яна не змагла. "Зьвяртайцеся да наймальнік", – параіла спэцыяліст. У "базе" ж па гэтай вакансіі абяцаюць 330 рублёў.

Што тычыцца самой базы вакансіяў, то большасьць прапанаваных месцаў якраз і арыентаваныя на 300-500 рублёў. У ёй мы знайшлі ўсяго 4 вакансіі, разьмешчаныя ў чэрвені, з заробкам больш за 1000 рублёў. Гэта вакансіі інжынэра, галоўнага інжынэра, галоўнага тэхноляга і заатэхніка.

Усяго ж у банку 31 вакансія з прапанаваным заробкам больш за 1000 рублёў, але ўсе яны вісяць ужо даўно, некаторыя – аж ад лютага. Чаму іх дагэтуль ня зьнялі, невядома. Не змагла адказаць на гэтае пытаньне і спэцыялістка аддзелу па садзейнічаньні ў працаўладкаваньні Алена Сабыніч, але пацьвердзіла, што ў базе трапляюцца неактуальныя вакансіі.

"Але гэта наймальнікі мусяць паведамляць пра закрыцьцё вакансіі, мы гэта не адсочваем", – адказала.

**Уладзімер Бяляўскі**
**«Віцебская вясна»**

СУСТРЭЧА

# СТАТКЕВІЧ І АФНАГЕЛЬ У ВІЦЕБСКУ

**Сустрэча зь лідэрамі Беларускага нацыянальнага кангрэсу Мікалаем Статкевічам і Яўгенам Афнагелем адбылася ў Віцебску 26 чэрвеня.**

Паслухаць сталічных гасьцей прыйшло больш за 80 чалавек.

Сярод слухачоў былі людзі розных сацыяльных і ўзроставых групаў. Прыйшлі і даўнія партыйныя паплечнікі, і людзі, якія на падобныя сустрэчы раней не прыходзілі. Адзін хлопец перад пачаткам сустрэчы гучна заявіў, што ён на такой імпрэзе ўпершыню, але ён звычайны грамадзянін і ня ёсьць агентам КДБ: "Проста паслухаць Статкевіча прыйшоў".

На сустрэчы прысутнічалі ня толькі віцябляне, але прыехалі людзі з Полацку, Бешанковічаў, вёсак Віцебскага раёна. Жывую трансьляцыю сустрэчы вёў аршанскі відэаблогер "Шэры Кот".

Спачатку Мікалай Статкевіч і Яўген Афнагель падзяліліся думкамі аб палітычнай і эканамічнай сытуацыі ў краіне, распавялі пра мэты свайго візыту, закранулі тэму магчымых у будучым пратэставых акцый. Так, на іх думку, для зьмены ў краіне цяперашняга палітычнага рэжыму неабходна, каб на вуліцы краіны выйшла каля 3% незадаволенага насельніцтва.

Асноўная частка імпрэзы прайшла ў рэжыме "пытаньне-адказ". Людзей цікавілі праблемы падатковай рэформы, уласнасьці на зямлю, адносінаў паміж палітычнымі лідэрамі і партыямі ды многае іншае. Зноў і зноў вярталіся да тэмы пратэстаў.

"А як сабраць гэтыя тры працэнты пратэстоўцаў у Віцебску? Я быў у 2017 годзе на плошчы ў Віцебску. Людзі сабраліся супраць Лукашэнкі, менавіта супраць дармаедзкага закона. Які нам патрэбны яшчэ штуршок, каб выйсьці на вуліцу? Будзем чакаць, калі будуць Канстытуцыю мяняць? Тады мы павінны выйсьці?" – на эмоцыях пытаўся мужчына з апошніх шэрагаў.

**«Віцебская Вясна»**

ЭКАЛОГІЯ

# КАК ПОЯВИЛСЯ БОРЩЕВИК?

**Первые семена этого растения витебские агрономы берегли как зеницу ока, а с первыми посевами нянчились, как с детьми.**

Борщевик Сосновского, наверное, самое мерзкое растение, которое можно встретить у нас на полях, в оврагах, на опушках лесов. Гигантские листья и мощные зонтики отравляют жизнь полеводам и дачникам, портят загородные места отдыха, высасывают соки из почвы. А сколько людей ежегодно обращается в травмпункты с химическими ожогами из-за неосторожных контактов с ядовитым гигантом!

Ежегодно государство выделяет большие деньги на борьбу с борщевиком, но меньше его не становится. К зарослям ядовитого растения, похожим на джунгли, давно успели привыкнуть жители Старого Села, агрогородка Октябрьская, Сокольников, Дыманово и многих других мест Витебского района

Всем известно, что борщевик Сосновского не является традиционным для Беларуси растением, а был когда-то завезен сюда. О времени его появления в наших краях ходит множество легенд.

Кто-то утверждает, что ядовитый сорняк завезли монголо-татары, раскидывавшие его семена вдоль дорог для уничтожения посевов. Другие приписывают это американским спецслужбам, якобы сбрасывавшим с самолетов семена борщевика в годы «холодной войны». Наконец, в народе борщевик окрестили «местью Сталина» — будто бы при «отце народов» началось массовое культивирование растения в СССР.

2019 год. Борщевик в парке Мазурино, в нескольких десятках метров от сцены.

На самом деле, ни монголо-татары, ни Сталин, ни тем более американцы здесь ни при чем. В этом году Витебский район может отпраздновать грустную годовщину – 55 лет назад на наших полях появился борщевик!

Мы нашли источники, которые рассказывают, где и когда это произошло. Сейчас покажется диким, но полвека назад борщевик Сосновского не был проблемой для аграриев – наоборот, им гордились!

Все началось с того, что 1 сентября 1962 года в газете «Сельская жизнь» была опубликована статья, из которой советские читатели узнали об удивительных кормовых свойствах этого растения. Описывалось, насколько оно богато витаминами, особенно каротином, какие высокие урожаи зеленой массы можно получить.

Правда, автор материала агроном Н. Токарь из Житомира предупреждал, что из-за резкого запаха, вызванного наличием в борщевике эфирных масел, животные его не едят. Но этот небольшой недостаток устранялся, если зеленую массу вялить и опрыскивать соленым раствором. А при силосовании эфирные масла и вовсе удалялись, и борщевик приобретал приятный запах квашеной капусты.

Агроном совхоза «Сиротинский» (в то время Шумилинский район входил в состав Витебского района) Евдокия Расовская заинтересовалась чудо-растением и написала письмо в Житомирскую областную контору пчеловодства. Вскоре с Украины пришло письмо с 39 семенами борщевика.

Осенью 1962 года на землях совхоза был высажен борщевик. Через год растение подкосили, чтобы получить собственные семена. А еще через год на двухметрового гиганта с огромными листьями и зонтиками ходили смотреть жители окрестных деревень.

Руководство хозяйства восхищалось новой культурой, которая позволила бы увеличить производство мяса и молока. Газета писала: «Будут у нас собственные семена, примерно на 1 га хватит».

Поначалу агрономы высказывали опасения, что растение у нас не приживется. Но очень быстро стало понятно, что это не так.

Семена растения получали из Ботанического института Академии наук ССР, из специальных экспедиций на Кавказ, из Грейсвальдского университета Германской Демократической Республики, из ботанических садов Чехословакии, Венгрии и Румынии.

Промышленные посадки борщевика. Из книги «Интродукция борщевиков в Белоруссии» (1980 год)

Стоит ли говорить, что семена эти наши агрономы берегли как зеницу ока, а с первыми посевами нянчились, как с детьми. Кто бы мог подумать, что всего полвека спустя одичавшее растение станет настоящей угрозой для нашей природы и экологии.

**«Витебский курьер»**

КАЛЕЙДАСКОП

# ЧЫМ ПРАВІНІЛІСЯ ЎНІЯТЫ?

**Упершыню за 24 гады беларускія грэка-каталікі (уніяты) не змогуць зладзіць традыцыйную пілігрымку з Полацка ў Віцебск. Пілігрымка павінна была быць юбілейнай, аднак усё ўперлася ў нядаўнія змены ў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. У выніку за 100-кіламетровы хросны ход ад Уваскрасенскага храма ў Віцебску да Сафійскага сабора ў Полацку, дзе ў 1705 годзе ад рук Пятра І пакутніцкай смерцю загінулі пяцёра манахаў, давялося б заплаціць 3000 рублёў адной толькі міліцыі. А яшчэ патрэбна аплачваць паслугі медыкаў і камунальнікаў.**

Такіх грошай вернікі не знайшлі, дый за што плаціць? 24 гады хросны ход паспяхова адбываўся, а на 25-ты шэсцю раптам спатрэбілася ахова міліцыі? Тым не менш, ісці насуперак закону ніхто не рызыкнуў, а праводзіць пілігрымку без аховы арганізатарам не дазволілі. Інтэрнэт-супольнасць зашумела, абвінавачваючы ўлады ў дыскрымінацыі па рэлігійным прынцыпе. Тым больш, што днямі скончыліся святочныя набажэнствы ў Будславе, куды скіроўваліся і пешыя, і роварныя каталіцкія пілігрымкі, і грошай ні з каго не бралі.

Выказваліся розныя версіі — у тым ліку, што да адмены пілігрымкі мае дачыненне РПЦ МП, якой вельмі ўжо муляюць вока грэка-каталікі, а таксама што гэта — адказ улады на прынцыповую пазіцыю грэка-каталікоў па рэстарацыі і зносу крыжоў у Курапатах. На жаль, ніякіх моцных галасоў у абарону грэка-каталікоў ад іншых хрысціянскіх канфесій не прагучала. Таму ў гэтым годзе вернікам давядзецца абысціся без пілігрымкі, а ў наступным святары паспрабуюць унесці паломніцтва ў гадавы план мерапрыемстваў, што праводзяцца пры падтрымцы дзяржавы — тады, як і ў Будславе, плаціць міліцыі, медыкам і камунальнікам не давядзецца.

А вось перашкодзіць паломніцтву кіраўніка Беларусі ў святыя для праваслаўных мясціны на Валааме не можа ніхто. Наадварот, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін арганізуе для яго персанальную авіяпілігрымку. Не зусім зразумела, чаму для перамоваў пра інтэграцыю абранай гэта выспа на Ладажскім возеры, калі першапачаткова працоўная сустрэча мусіла адбыцца ў Санкт-Пецярбургу. Меркавана, у гэты час у Валаамскім мужчынскім манастыры з візітам будзе патрыярх Кірыл, які, магчыма, прыме ўдзел у сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў.

Калі Пуцін спадзяецца, што патрыярх зможа нейкім чынам паўплываць на Лукашэнку, гэтыя спадзевы, найхутчэй, дарэмныя — Аляксандр Лукашэнка ніколі не выяўляў асаблівай прыхільнасці да кіраўніка расійскай праваслаўнай царквы. Акрамя гэтага, правадыр Беларусі загадзя акрэсліў, што не збіраецца прымаць нейкіх важных рашэнняў на Валааме, а едзе туды проста каб пабыць. З турыстычнымі, так бы мовіць, мэтамі.

Незвычайныя падзеі зараз разгортваюцца ў Свіслачы — на могілках ля тамтэйшага касцёла Следчы камітэт распачаў эксгумацыю меркаванага пахавання Віктара Каліноўскага, старэйшага брата кіраўніка паўстання 1863–1864 гадоў. Усе працы зоймуць некалькі месяцаў, а за іх вядзеннем назіраюць беларускія і літоўскія археолагі. Мэта задуманага — генетычна пацвердзіць факт, што на гары Гедыміна ў Вільні сярод іншых паўстанцаў быў пахаваны і сам Кастусь Каліноўскі. Пакуль яго асоба ідэнтыфікаваная паводле ўскосных прыкметаў, у тым ліку — праз мадэляванне яго выявы па чэрапе і параўнанне з прыжыццёвым фотаздымкам.

Калі б быў вядомы хоць адзін жывы нашчадак Каліноўскага па мужчынскай лініі, генетычную ідэнтыфікацыю было б зрабіць проста. Але паколькі такіх пакуль не знайшлі, нягледзячы на тое, што Каліноўскія мелі вялікую сям'ю, давялося праводзіць эксгумацыю. Пры гэтым няма стоадсоткавай верагоднасці, што ў Свіслачы наогул знойдуць парэшткі Віктара Каліноўскага, бо канкрэтна гэтае месца пахавання збольшага сімвалічнае — вядома толькі, што брат рэвалюцыянера быў пахаваны на могілках ля касцёла. Літоўскі бок пра гэта быў папярэджаны, але ўсе спадзяюцца на плённасць даследаванняў. І на тое, што 2 лістапада на могілках Роса ў Вільні і літоўская, і беларуская дэлегацыі нарэшце змогуць годна перапахаваць парэшткі паўстанцаў, і адгэтуль кожны будзе ведаць, дзе ўшанаваць памяць беларускага героя Кастуся Каліноўскага.

**Таццяна Шапуцька**
**«Новы час»**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЗМЯНЕННЕ ПРЫРОДЫ ЧАЛАВЕКА — ЗАДАЧА, ЯКУЮ БАЛЬШАВІКІ ВЫРАШЫЛІ

**«Азбука камунізму» была напісаная Мікалаем Бухарыным і апублікаваная ў 1919 годзе ў сувязі з тым, што «ў такім “падручніку” адчуваецца велізарная патрэба». Сваёй актуальнасці яна не страціла і праз стагоддзе. Цытую: «Адзін з галоўных падманаў буржуазнай дэмакратыі палягае ў тым, што яна дае толькі бачнасць правоў; на паперы пазначана, што працоўныя могуць выбіраць у парламент цалкам свабодна, што яны маюць такія ж правы, як і гаспадар (яны нібыта «роўныя перад законам»); што яны могуць свабодна аб'ядноўвацца ў саюзы, збірацца на сходы, выпускаць якія заўгодна газеты, кніжкі і іншае. У гэтым бачаць «сутнасць дэмакратыі» і заяўляюць, што тут дэмакратыя для ўсіх, для ўсяго народа, для ўсіх грамадзян, а не так, як у Савецкай рэспубліцы».**

Дык вось яна якая, буржуазная дэмакратыя! Усё, на што яна здольная, — «толькі бачнасць правоў». Іншая справа, Рэспубліка Беларусь — «унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава» (Канстытуцыя, артыкул 1), у якой «чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы» (артыкул 2), а «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту з'яўляецца народ» (артыкул 3).

Хто б сумняваўся. Не пры буржуазнай жа дэмакратыі жывем! Нездарма ж у асноўным законе краіны прыметнік «буржуазны» адсутнічае. Не знайсці днём з агнём прадстаўнікоў буржуазіі і ў беларускім парламенце — і гэта нягледзячы на тое, што немалая колькасць фабрык і заводаў знаходзіцца ў руках прыватнікаў, г. зн. буржуазіі…

**Найвялікшы цуд усіх часоў**

Прафесійны публіцыст і журналіст Бухарын з лютага 1934 па студзень 1937 года ўзначальваў газету «Известия». Як і ва ўсіх яго калегаў па пяры, у ягоным слоўніку адсутнічала слова «постпраўда», якое сёння ўваходзіць у моду. Але, як і герой Мальера, які не ведаў, што ён размаўляе прозай, Бухарына можна смела аднесці да ліку ппіянераў, што паставілі вытворчасць постпраўды на ідэалагічны канвеер.

Што ж азначае слова «постпраўда», якое стала ў 2015-м, паводле версіі Брытанскай энцыклапедыі, словам года? Згодна з Вікіпедыяй, палітыка постпраўды — «тып палітычнай культуры, у якой дыскурс у асноўным фарміруецца праз зварот да эмоцый і асабістых перакананняў аўдыторыі, пры гэтым падрабязнасці палітычнай рэальнасці застаюцца без увагі».

Пагодзімся, але дапоўнім гэта вызначэнне яшчэ адным, запазычаным у расійскага фінансіста Андрэя Моўчана: «Гэта тэрмін, што пазначае інфармацыю, якую вам перадаюць такім чынам і так, каб вы прымалі рашэнне, якое выгадна таму, хто перадае інфармацыю. Такім чынам, гэта не аб'ектыўная інфармацыя, а інфармацыя, створаная для таго, каб чаго-небудзь дасягнуць».

Як такі тып інфармацыі ствараецца на практыцы, я праілюструю на прыкладзе штотыднёвай інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1».

У травеньскіх выпусках праграмы на 48 сюжэтаў прыйшлося 27, што былі прысвечаныя ўнутраным праблемам, 6 — знешнім і 15 — змяшаным. Да апошніх адносяцца сюжэты, у якіх распавядалася пра ўзаемадзеянне беларускіх эканамічных і культурных суб'ектаў з замежнымі партнёрамі.

«Галоўны эфір» — праграма не пра праблемы краіны, а пра яе поспехі. Таму няма нічога дзіўнага, што тэме беларуска-расійскіх стасункаў быў прысвечаны толькі адзін сюжэт («брудная нафта») і толькі адзін сюжэт меў дачыненне да побытавых праблем простых людзей.

Натуральна, што кожны трэці сюжэт будаваўся вакол фігуры адзінага палітыка (АП). Каб надаць большую пераканаўчасць яго выказванням, у рэпартажы з месцаў актыўна прыцягваліся эксперты і грамадзяне, якія ўхвалялі палітыку кіраўніка дзяржавы. Іх сумеснымі намаганнямі тэлебачанне фарміравала вобраз краіны — з багатай гісторыяй, «зручнай для жыцця» і прывабнай для замежных турыстаў.

У травеньскім «Галоўным эфіры» не знайшлося месца для аналізу прычын адклікання Крамлём пасла Міхаіла Бабіча. Праігнаравалі журналісты і чарговую нярадасную статыстыку ад Белстата. Усё лагічна. Шмат будзеш ведаць — хутка састарэеш. А хіба могуць спрыяць на дзяржаўным тэлеканале такой нярадаснай перспектыве нашых суайчыннікаў?!..




**Няма правілаў без выключэнняў**

Задача па змяненні прыроды чалавека, мабыць, была адзінай, якую бальшавікі перад сабой не толькі паставілі, але і паспяхова вырашылі. Чалавек са зменай прыродай — гэта добра нам вядомы па даследаваннях сацыёлагаў Лявада-цэнтра «чалавек савецкі». Ён і сёння складае ядро так званай беларускай «большасці».

Гэта ён у 1994 годзе дружна падтрымаў на першых прэзідэнцкіх выбарах будучага АП. Гэта ён прыняў акупацыю Крыма ў 2014 годзе за «аднаўленне гістарычнай справядлівасці». А ў чэрвені 2015 года «чалавек савецкі» на пытанне НІСЭПД: «Калі б Расія ўзброеным шляхам паспрабавала далучыць да сябе ўсю тэрыторыю Беларусі або яе частку, як бы Вы дзейнічалі?» заявіў, што прыстасаваўся б да новай сітуацыі (53%) і вітаў б гэтыя змены (12%).

Мне ўжо неаднаразова даводзілася пісаць пра тое, што пераход ад першабытных зграяў «гома сапіенс» да вялікіх сучасных калектывах гістарычна ажыццяўляўся за кошт трох фактараў: сілы, веры і закона. Зразумела, што на пачатковым этапе гэтага пераходу пераважала сіла, а ў эпоху мадэрну і постмадэрну — закон.

Аднак няма правілаў без выключэння. Прывяду свежае (чэрвеньскае) выказванне АП: «Усё можам перапрацоўваць, лёгкая прамысловасць добрая. Але ж не, чагосьці чакаем. Чакаем, пакуль прэзідэнт па галаве не ўдарыць (вылучана. — Рэд.). Таму шукайце новыя напрамкі, новыя культуры. Трэба прадаваць, трэба зарабляць грошы».

Адна справа — калі наглядчыкі ўдарамі па галаве стымулявалі будаўнікоў пірамід, зусім іншая — спрабаваць гэткім жа чынам прымусіць чыноўнікаў шукаць «новыя напрамкі». З падобнымі прапановамі АП звяртаецца да свайго асяродку ўжо не першы год. Вынікаў не відаць, але ён чалавек упарты, і гэта дае надзею…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**“Новы Час”**

25 ГАДОЎ

# НІ «СВЕТЛАГА МІНУЛАГА», НІ ПЭЎНАЙ БУДУЧЫНІ

**Роўна 25 гадоў таму, 10 ліпеня 1994 года, Аляксандр Лукашэнка трыумфальна перамог у другім туры першых у Беларусі прэзідэнцкіх выбараў. Дэпутат з глыбінкі з іміджам гэткага беларускага Робіна Гуда паклаў на лапатkі наменклатурніка Вячаслава Кебіча, які надакучыў масам.**

Лукашэнка абяцаў забрытаць наменклатурнай мафію, адолець карупцыю, адвесці краіну ад эканамічнай прорвы і, па вялікім рахунку, вярнуць савецкія парадкі. Пры тагачаснай разрусе ў эканоміцы і галовах шмат хто настальгаваў па «светламу мінуламу» з гарантаванай працай і каўбасой па 2.20. Гэта і абумовіла ўзлёт былога саўгаснага дырэктара і палітпрацаўніка.

Другой фішкай Лукашэнкі стала ідэя «братэрскай інтэграцыі» з Расеяй, што абяцала танныя рэсурсы без «рабаўніцкіх рэформаў».

Але сёння, праз чвэрць стагоддзя, электарат расчараваны, імідж нязменнага (і такога, якога ніхто не зменяе!) прэзідэнта прыцьмеў, яго рэйтынг стаў чымсьці кшталту дзяржаўнай таямніцы.

Былы Робін Гуд раз'язджае ў новым браняваным Mercedes'е, які каштуе, як прыкінулі СМІ, не менш за 1,4 млн еўра, пакуль жыццё большасці людзей вельмі цяжкое, а краіна практычна спынілася ў развіцці.

**Гэта фіяска, братан!**

Вярнуць «светлае мінулае» так і не ўдалося. Так, нейкі час на расейскіх рэсурсах і савецкай індустрыяльнай базе эканоміка Беларусі расла няўрэнна, заробкі — таксама. Але патроху монстры сацыялістычнай індустрыі выдахліся, сталі неканкурэнтаздольнымі, злёгку пераліцаваная калгасная сістэма на сяле таксама аказалася не надта эфектыўнай. Падтрыманне прадпрыемстваў-зомбі стала зжыраць усё больш бюджэтных грошай.

У дадатак Маскве надакучыла даваць рэсурсы па «братэрскіх» коштах. Яна запатрабавала «паглыбленай інтэграцыі», чытай: мяккага паглынання. А каб партнёр не асабліва ўпіраўся, стала скарачаць фінансава-эканамічнае падтрыманне.

У апошнія гады, калі ўсхваленая прапагандай «беларуская мадэль» забуксавала, Лукашэнка вымушаны адмаўляцца ад патэрналізму, скарачаць сацыяльныя абавязкі дзяржавы. Раней за Уладзіміра Пуціна павысіў пенсійны ўзрост. Раз за разам раіць электарату больш круціцца самастойна.

**Беларусь выпала з часу**

Але, сказаўшы «а», прэзідэнт не кажа «б». Ён працягвае трымацца за велізарны неэфектыўны дзяржсектар, паколькі бачыць пагрозу сваёй уладзе ў шырокай прыватызацыі, узнікненні моцнага незалежнага бізнесу і пласта грамадзянаў, якія не моляцца на дзяржаву.

Па гэтай жа прычыне ў краіне жорстка душацца палітычныя пратэсты. Апазіцыя ды актывісты грамадзянскай супольнасці выцесненыя ў маргінальную нішу.

Так, палітычнае поле зачысцілі, рэальных канкурэнтаў у Лукашэнкі на выбарах 2020 года пакуль не прадбачыцца. Падначаленыя гатовыя запэўніць правадыру чарговы высокі афіцыйны вынік (незалежная сацыялогія фіксавала іншыя лічбы, таму яе і прыдушылі).

Але гэтая перамога Лукашэнкі над краінай выглядае сёння піравай. Ён стаў закладнікам сваіх стэрэатыпаў і фобіяў. Беларусь — у тупіку, яна нібы выпала з часу.

Аўтарытэтныя міжнародныя эксперты дружна сцвярджаюць, што без рэформаў эканамічны рост будзе не большы за паўтара-два працэнты на год (а калі Расея моцна прыцісне, і таго не чакай). Гэта азначае, што Беларусь працягне адставаць нават ад суседніх, не самых багатых, краін ЕЗ. У Польшчы ды дзяржавах Балтыі заробкі ўжо ў 2,5-3 разы вышэй, чым у беларусаў.

**Аўтакратыя губіць перспектыву краіны**

У свой час Лукашэнка прапанаваў народу негалосны кантракт: я вам забяспечваю чарку і скварку (гэта было сімвалам дабрабыту для простых людзей), а вы не лезеце ў палітыку. І маса, на жаль, даволі лёгка абмяняла дэмакратыю на сытасць. Але ў выніку беларусы трапілі ў пастку. Цяпер шмат хто незадаволены ўладай, але паспрабуй яе змяні!

Вядома, рана ці позна перамены праб'юць сабе дарогу. Аднак сцэнар можа апынуцца вельмі драматычным. У дадатак гульні з імперыяй падвесілі дамоклаў меч над беларускім суверэнітэтам.

Эпоха ж Лукашэнкі, які так эфектна пачынаў, можа ўвайсці ў падручнікі як тыповы прыклад загнівання, дэградацыі аўтарытарнай улады, якім бы харызматычным ні быў правадыр.

**Аляксандр Класкоўскі**
**https://belsat.eu**

АЛКАГАЛІЗАЦЫЯ

# КАК БЕЛОРУСЫ УМИРАЮТ ИЗ-ЗА АЛКОГОЛЯ

**В Беларуси каждый день около 50 человек умирает от заболеваний, связанных с употреблением алкоголя. В год таких случаев около 20 тысяч. В прошлом году 1476 людей умерли от случайного отравления алкоголем.**

— По оценкам ВОЗ, в год в Беларуси умирает около 20 тысяч человек от заболеваний, связанных с вредным употреблением алкоголя. Это 50 смертей каждый день, — рассказал Валентин Русович, координатор программ по общественному здоровью странового офиса ВОЗ в Беларуси во время онлайн-трансляции из Национального пресс-центра.

Из около 20 тысяч смертей более 11 тысяч — это смерти от сердечно-сосудистых заболеваний. Речь идет об инфарктах, инсультах, сердечной недостаточности. Около 6 тысяч смертей — от внешних причин. Это суициды, травмы, пожары, утопления и ДТП. Свыше одной тысячи смертей — от цирроза печени, и примерно столько же — от рака, который также связан с пьянством.

По словам Валентина Русовича, ВОЗ ассоциирует несколько видов рака, которые связаны с вредным употреблением алкоголя. Это рак полости рта, глотки, пищевода, печени, прямой кишки и толстого кишечника. До 5% случаев рака молочной железы у женщин вызывает в числе прочего и вредное употребление алкоголя.

В 2018 году 1476 жителей Беларуси умерли от отравления алкоголем. Это 1186 мужчин и 290 женщин. Лишь 10% из этих смертей связаны с некачественным алкоголем или употреблением метилового спирта. Почти все смерти в этой категории — от передозировки спиртного. По словам Русовича, средняя смертельная доза алкоголя начинается с 30 рюмок по 35 мл крепкого спиртного напитка: водки или коньяка.

— Это эквивалентно полутора бутылкам водки, которая выпивается в течение шести часов. Достигается концентрация 3,5 промилле алкоголя в крови — и смерть наступает в результате передозировки и остановки дыхания.

С точки зрения ВОЗ нет безопасного уровня алкоголя, в идеале человек не должен вообще его употреблять. В структуре потребления алкоголя в Беларуси 49% занимают крепкие спиртные напитки, 26% — крепленые вина.

ВОЗ в своих рекомендациях призывает не пить больше двух стандартных единиц алкоголя в день мужчинам и более одной стандартной единицы — женщинам. При этом не менее двух дней в неделю нужно полностью воздерживаться от алкоголя.

Под одной стандартной единицей алкоголя подразумевается 10 граммов чистого спирта. Например, это 0,33 пива, или один фужер сухого вина, или одна рюмка в 35 мл крепких спиртных напитков.

— Вредное употребление алкоголя начинается с шестого тоста во время застолья, когда человек пьет маленькими рюмками по 35 мл. Этими нормами оперирует ВОЗ, — говорит Русович…

По статистике, мужчины в Беларуси употребляют 18 литров чистого спирта в пересчете на все алкогольные напитки в год, женщины — 5,5 литра. 1 литр чистого спирта эквивалентен пяти пол-литровым бутылкам водки. То есть 18 литров чистого спирта — это 90 пол-литровых бутылок водки в год… Сегодня на диспансерном учете в Беларуси состоят примерно 158 тысяч человек, больных алкоголизмом.

*(скарочана)*

**tut.by**

II ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# ДОРОГАЯ И НЕ БЛЕСТЯЩАЯ ИГРУШКА

**Европейские игры в Минске оказались дорогой и не слишком блес-тящей игрушкой. Инвесторы, на приток которых рассчитывают белорусские власти, ориентируются не на шоу с фейерверками...**

Как ни старались государственные СМИ разрисовать II Европейские игры всеми красками, создать видимость, что этим живет вся страна и заинтересован весь мир, мероприятие не дало того эффекта и резонанса, на который рассчитывало руководство Беларуси.

**Туристы не повалили, электорат равнодушен или раздражен**

Власти надеялись на большой приток туристов, поддержку международных спонсоров («Европейцы сказали, что помогут», — уверял Лукашенко), продвижение имиджа Беларуси на Западе. Уже очевидно, что надежды оправдались далеко не в полной мере.

Спонсоры не разогнались помогать. Иностранцев оказалось негусто. Начальник департамента по гражданству и миграции МВД Алексей Бегун сообщил, что приехало в Беларусь по билетам Европейских игр и заявило о намерении посетить спортивные мероприятия 4686 человек (это, правда, без учета россиян). Для сравнения: на чемпионат мира по хоккею в 2014 году прибыло более 80 тысяч человек из 46 стран.

Не вызвали игры ажиотажа и среди массы электората. В ряде видов спорта уровень участников оказался не самым звездным. На многих состязаниях трибуны были полупустые. Не блистали многолюдностью фан-зоны. У входов на арены волонтеры уныло махали предназначенными для зазывания искусственными лапами, при том что прохожие равнодушно шагали мимо.

Минчан раздражали неудобства: перекрывались улицы, возникали пробки. Похоже, не всех вдохновила и мобилизация в волонтеры. Социальные сети всячески иронизировали над косяками мероприятия, дурным вкусом и чрезмерными амбициями большого начальства.

**Вбухали кучу денег, которые не отобьются**

Событию, которое Александр Лукашенко любовно назвал «минской Олимпиадой», самые язвительные критики приклеили ярлык «Голодные игры».

Ну, положа руку на сердце, такой уж голодухи у нас нет. Однако экономический фон неважный, это правда. Упала внешняя торговля (на 2% за январь — май), ВВП почти перестал расти (за первые пять месяцев года прирост снизился до 1%). Даже средняя зарплата в мае сползла до 1071,6 рубля.

И на таком фоне многих неприятно поразили цифры, которые назвал министр финансов Максим Ермолович. Оказалось, что Беларусь уже потратила на эти игры 540 млн рублей (около 270 млн долларов), в том числе — 266 млн рублей из бюджета.

Между тем Лукашенко в 2016 году заявлял: «Мы посчитали, что даже в плюсе будем. Нам надо будет затратить где-то под 50 млн долларов за эти годы. Это слезы для страны».

Слезы оказались покрупнее, чем думалось. Окончательные подсчеты впереди, но уже невооруженным глазом видно, что потраченные деньги вряд ли удастся отбить.

Правда, можно утешаться тем, что львиная доля средств вложена в инфраструктуру и оборудование — то, что будет работать и после.

А еще, по мнению Ермоловича, «такой уровень проведения игр создает определенный инвестиционный эффект, открывает страну для широкого круга внешних инвесторов».

Но это вилами по воде писано. Вряд ли инвесторы ориентируются на шоу с фейерверками и элементами дополненной реальности. Им важнее другая реальность: законы, гарантии, перспективы.

А какие могут быть гарантии и перспективы, если белорусское руководство на словах не против предложенного Москвой углубления интеграции, что чревато потерей суверенитета? Когда неизвестно, что с этой страной будет завтра, осторожный инвестор не разгонится вбухивать сюда капиталы…

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**https://naviny.by**

ДЗЕНЬ БЕЛАРУСІ

# «ДЕНЬ НЕЗАВИСИМОСТИ 3 ИЮЛЯ — БОЛЬШОЕ НЕДОРАЗУМЕНИЕ»

**После распада СССР прошло уже почти 30 лет, а в Беларуси, в отличие от других постсоветских стран, нет единства по поводу вопроса, когда именно надо отмечать День независимости.**

**3 июля — независимость или память о войне?**

В 1992-1996 годах День независимости в Беларуси официально отмечался 27 июля — по дате принятия Декларации о государственном суверенитете в 1990 году. Но через два года после победы на президентских выборах, в 1996 году, Александр Лукашенко инициировал референдум, по результатам которого праздник был перенесен на 3 июля — дату освобождения Минска от фашистских захватчиков в 1944 году.

Директор института «Политическая сфера» Андрей Казакевич говорит, что перенос Дня независимости был использован для привлечения внимания к более важным вопросам референдума об изменении Конституции Беларуси: «Основной идеологический посыл власти на тот момент был связан с обращением к советскому прошлому Беларуси, вопрос о 3 июля должен был мобилизовать электоральную поддержку, ведь образ войны был узнаваем и эмоционально близок для большинства населения страны».

Поэтому 3 июля сейчас и отвечают соответствующим образом — парадом армии, военной техники и салютом.

**Еще пять Дней независимости**

Отказаться от даты 27 июля белорусам было несложно — она не имела серьезного эмоционального содержания и скорее, наоборот, ассоциировалась с кризисом, считает политолог.

«Более того, как только дата 27 июля стала праздником в 1990 году, она столкнулась с конкуренцией со стороны Дня Воли (25 марта, день провозглашения независимости Белорусской Народной Республики в 1918 году), который сторонники независимости Беларуси считали более значимым и важным».

Кроме того, в общественной дискуссии Беларуси фигурируют и другие даты, которые можно «назначить» днем независимости Беларуси — провозглашение независимости Беларуси 25 августа 1991 года, переименование БССР в Республику Беларусь 19 сентября 1991 года, а также годовщина победы войска ВКЛ над русской армией 8 сентября 1514 году…

**3 июля прижилось в сознании белорусов**

На символическом уровне выбор даты 3 июля как Дня независимости Беларуси выглядит странно, считает социолог Оксана Шелест: «День освобождения города Минска от немецких оккупантов и День независимости Республики Беларусь — эти два события довольно сложно идейно увязать между собой и найти реальную историческую связь».

А вот старейший белорусский историк, доктор исторических наук Леонид Лыч называет выбор даты 3 июля для празднования дня независимости «большим недоразумением». «То, что 3 июля стал днем независимости, — это большое недоразумение. Это не стыкуется ни с какой хронологией. 3 июля должен быть все время днем освобождения, и никаких других дней нельзя сочетать с ним. Но это огромное преступление против истории. Ни одна республика (из бывших совестских — прим. БП) так не сделала: у них есть дни независимости и дни освобождения от немецкой оккупации», — высказал Белсат свое мнение историк.

**Какая дата объединит белорусов?**

…По мнению политолога Казакевича, День Воли — определенно фаворит в общественных дискуссиях. «Празднование 100-летия БНР в 2018 году показало, что только 25 марта является альтернативным Днем независимости, который имеет существенное идейное и эмоциональное содержание для заметной части белорусского общества».

Казакевич считает, что теперь главный вопрос состоит в том, куда дальше пойдет общественная дискуссия. «Для понимания проблемы с датой дня независимости следует обращать внимание не только на текущее общественное восприятие, которое в значительной степени зависит от позиции государства. Важное значение имеют также и дискуссии в интеллектуальной и политической сфере, где проблема развития белорусской национальной идентичности сохраняет свою актуальность и где формируются альтернативные подходы развития белорусской нации и общества».

**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 16.07.2019 у 19.40
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.